З настаўніцкай нівы

# Пад развагу настаўнікам

Многія нашы настаўнікі — беларусы, з'яўляюцца ініцыятарамі культурнага жыцця, — разам з моладдзю арганізуюць мастацкія гурткі і самі «удзельнічаюць у гэтых гуртках. І гэта добра.

Нажаль ёсць і такія настаўнікі, якім не ўдаецца зблізіцца да моладзі. Штопраўда некаторыя спрабавалі гутарыць з хлопцамі і дзяўчатамі адносна сарганізавання хору ці драматычнага гуртка, але ніяк не ладзілася гэтае супрацоўніцтва. Што перашкаджае?

Многія настаўнікі, якія працуюць у беларускіх вёсках ніколі не размаўляюць па - беларуску з насельніцтвам вёскі, не карыстаюцца ў штодзённым жыцці сваёй роднай мовай. Яны размаўляюць па-польску, а сяляне нашых беларускіх вёсак, у тым ліку і моладзь, размаўляюць па-беларуску.

У Вялікіх Тыневічах (Гайнаўскі павет), у Зубаве (Бельскі павет), ёсць школы з беларускай мовай навучання. У гэтых школах ёсць па тры, або чатыры настаўнікаў - беларусаў, аднак апрача таго, што на лекцыі беларускай мовы, не пачуеш ад іх ніводнага беларускага слова. І ці такія настаўнікі могуць здабыць аўтарытэт сярод моладзі? — Зразумела, што не!

Гэтак справа маецца не толькі ў Тыневічах і Зубаве.

Вядома, ніхто не вымагае, каб настаўнікі не карысталісі польскай мовай. Але, калі яны ўжо заўсёды і ўсюды размаўляюць па-польску, дык гэта ўжо лішне. Такім чынам яны ў пэўным сэнсе крыўдзяць сваю нацыянальнасць, бо даюць дрэнны прыклад, як для школьнікаў, так і для моладзі таму што, як вядома, школьнікі ці моладзь зусім інакш успрымаюць словы з вуснаў адукаваных людзей, а інакш ад сваіх бацькоў, сярод якіх ёсць многа малапісьменных.

Нашы настаўнікі павінны разумець тое, што ў беларускім асяроддзі, маю на ўвазе беларускія вёскі і школы, — неабходна карыстацца беларускай мовай.

Нашы настаўнікі павінны любіць сваю мову, павінны быць патрыётамі беларускага народа і інтэрнацыяналістамі. Яны павінны ўзяць мэту, — перацярэбіць усе зараслі на дарозе прывіцця любві да роднай мовы, на дарозе пашырэння асветы і культуры.

М. Х.

## Трагедыя школы ў Скупаве

Школа ў Скупаве, Гайнаўскі павет, змяшчаецца ў трох будынках. Штопраўда, такіх школ ёсць больш на Беласточчыне, аднак у Скупаве гэта найбольш кідаецца ў вочы, таму што будынкі знаходзяцца далёка адзін ад другога.



Сапраўды школьны будынак (які ад пачатку пабудаван на школу) у такім стане што, калі падае дождж ці снег, тады ў класах месца ні знойдзеш — вада цячэ са столі.

Сяляне вёскі купілі нейкі будынак у Нараўцы, каб дабудаваць да школы новае памяшканне, але паставілі зруб і на тым закончылася — не хапіла сродкаў далей будаваць.

Сяляне звярталіся за дапамогай у Аддзел асветы ў Гайнаўцы, нажаль не атрымалі яе.

А шкада. На нашу думку, трэба, каб і Аддзел асветы і Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы дапамаглі насельніцтву Скупава дакончыць пабудаваць школу.

Тэкст і фото — аа.

## Некалькі слоў аб школах

У гэтым годзе ў Гайнаўскім павеце, у мясцовасці Кляшчэлі, будзе зроблены рамонт школы, на суму 230 тыс. зл, а ў Белавежы на суму 120 тыс зл. Будзе закончана таксама пабудова школ у Дашах і Крыўцу.

У мінулым годзе насельніцтва Альхоўкі грамадскім чынам приступіла да пабудовы школы. Пастаўлена сцены, зроблена дах, але далей будаваць не хапіла сродкаў.

Аддзел асветы, разгледзіўшы справу, пастанавіў зрабіць планы, скласці каштарыс, (правесці справу праз усе правілы бюракратычнай паперкавай работы) і толькі тады прыступіць да заканчэння пабудовы. Будынак амаль што гатовы, няма патрэбы драмаць Аддзелу асветы невядома колькі часу над лішнімі паперкамі, а адразу брацца за работу, — з гэтай думкай згодны і Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы. (аа)

## Чаму ў Тымянскай школе не падпісваюць «Нівы»

У вёсцы Тымянка, Семятыцкага павета, ёсць 5-цікласная школа, якая згуртоўвае дзеці з двух беларускіх вёсак: Тымянкі і Пішчаткі. У мінулым навучальным годзе ўведзена тут беларускую мову, як прадмет. І гэта зусім зразумела ўзяўшы пад увагу, што ўсе дзеці тут беларускія. Нажаль у школьнай бібліятэцы няма ніводнай беларускай кніжкі. Дзеці таксама наракаюць на брак школьных дапаможнікаў з беларускай мовы.

Несумненна, ў навучанні беларускай мовы шмат магла-б дапамагчы «Ніва» і «Зорка» калі-б іх дзеці чыталі. Нажаль, ніхто з дзяцей не выпісвае тут «Нівы». Чаму? Таму, што ніхто не зaахвоціў вучняў да гэтага. А шкада. Напэўна выкарыстанне «Нівы» і «Зоркі» шмат дапамагло-б у вывучэнні беларускай мовы. (вб)

Варшава



Траса В—З. Фото — ЦАФ

## Лепшыя беларускія артысты-самадзейнікі паедуць на агляд у Варшаву

У вёсках і мястэчках ёсць шмат харавых, танцавальных і інструментальных беларускіх мастацкіх самадзейных калектываў.

Ёсць у нас шмат спевакоў - салістаў, музыкантаў і дэкламатараў, якія карыстаюцца папулярнасцю і павaжаннем у сваіх аколіцах.

Пажаданым ёсць, каб усе гэтыя людзі паказалі свае здольнасці грамадству. Ад 27 красавіка пачнуцца павятовыя агляды розных мастацкіх гурткоў, паасобных салістаў, музыкантаў і дэкламатараў нацыянальных меншасцей.

Арганізатарам агляду калектываў нацыянальных меншасцей Польшчы з'яўляюцца Галоўныя праўленні таварыстваў нацыянальных меншасцей у Польшчы, сумесна з Міністэрствам культуры і мастацтва.

За арганізаванне павятовых аглядаў адказны ў нас павятовыя аддзелы Беларускага грамадска - культурнага таварыства і павятовыя аддзелы культуры павятовых радаў народовых.

Самадзейнікі вылучаныя на павятовых аглядах будуць прымаць удзел у ваяводскім аглядзе ў Беластоку, які адбудзецца 18 мая. У Беластоку будуць вылучаны найлепшыя калектывы, салісты, дэкламатары і музыканты на агульнапольскі агляд мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей Польшчы, які адбудзецца 30 і 31 мая г. г. у Варшаве.

Найлепшыя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці атрымаюць цэнныя ўзнагароды.

Дакладныя інфармацыі адносна агляду калектываў можна атрымаць у павятовых аддзелах культуры, а таксама ў аддзелах Таварыства.

Часу не многа, трэба распачаць ужо падрыхтоўку. Не абавязкова падрыхтаваць новую праграму — можна выступаць з гэтай, з якою ўжо выступалі, трэба толькі звярнуць ўвагу на дапрацоўку яе.

Нашы гурткі павінны паказаць свой высокі мастацкі ўзровень — усебакова паказаць свае таленты. М. Х.

*«Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым зусім замерлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы: хто якую носе; ото-ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы».*

*З прадмовы да «Дудкі беларускай»*

Прадмова Багушэвіча да «Дудкі беларускай» была накіравана супроць некаторай часткі беларускай інтэлігенцыі, якая знаходзілася пад моцным уплывам дэнацыялізатарскай палітыкі царызма. У яе асяроддзе праніклі памылковыя погляды аб няпоўнацэннасці беларускай мовы, на якой нібыта «нічога добрага ні сказаць, ні напісаць не можна». Пісьменніка глыбока непакоіла тая акалічнасць, што каланізатарскія намаганні прымусовага «абрусення» беларускай нацыі мелі ўплыў на пэўную частку тагачаснага беларускага грамадства. Гэтыя памылковыя погляды на беларускую мову ў асяроддзі часткі беларускай інтэлігенцыі ўскрывае Багушэвіч у прадмове да «Дудкі беларускай», якая пачынаецца наступнымі словамі:

*«Братцы мілыя, дзеці Зямлі-Маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, катораю мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна «беларускай». Я сам калісь думаў, што мова наша — «мужыцкая» мова і толькі таго».*

Паэт імкнуўся да ўзняцця аўтарытэту беларускай мовы ў вачах суайчыннікаў, да прызнання ёй роўнапраўя сярод іншых нацыянальных моў. Ён растлумачваў сваім чытачам, «што мова нашая ёсць такая-ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая». У пацвярджэнне вялікага значэння беларускай мовы Багушэвіч напамінаў, што ў часы Вялікага княства Літоўскага ёю карысталіся не толькі народныя масы, але і верхнія слаі тагачаснага грамадства. «Чытаў я, — піша Багушэвіч, — ці мала старых папераў, па дзвесце, па трыста гадоў таму назад пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай чысцюсенькай, як-бы во цяпер пісалася».

Расказваючы ў сваіх «Прадмовах» аб слаўных традыцыях беларускага народа ў мінулым, паэт адступаў ад гістарычнай праўды, калі пісаў, што Беларусь была «ў сярэдзіне Літвы, як зерне ў гарэху». Гэты факт, што ў часы Вялікага княства Літоўскага на беларускай мове вялася дыпламатычная перапіска, складаліся грамадзянскія акты і пісаліся дзяржаўныя законы, Багушэвіч узвёў у абсалют і называў літоўскі перыяд у гісторыі Беларусі «залатой парой».

Як-жа ў сапраўднасці выглядала сітуацыя Беларусі ў часы знаходжання яе ў складзе Вялікага княства Літоўскага, а затым у складзе панска-шляхецкай Польшчы?

У XIV—XVIII стагоддзях краіна перажывала найбольш змрочны перыяд свайго гістарычнага развіцця. Народныя масы, а перш за ўсё прыгоннае сялянства, цярпелі жорсткі прыгнёт з боку літоўскіх і беларускіх феадалаў. А той факт, што беларуская мова ў часы Вялікага княства Літоўскага была афіцыяльнай мовай і ў сувязі з гэтым стварыліся спрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай пісьменнасці, тлумачыцца адсутнасцю літоўскай пісьменнасці. І таму нічога дзіўнага, што літоўскія князі не праследвалі беларускай мовы. Пасля Люблінскай уніі (1569 г.), калі Беларусь падпала пад уладу польскіх феадалаў, прыгонны прыгнёт спалучыўся з прыгнётам нацыянальным і сацыяльным.

У сваіх развaжаннях аб мове Багушэвіч спрабуе вызначыць асноўныя адзнакі беларускай нацыі. Аўтар «Прадмоў», напрыклад, азначэнне нацыі выводзіць з агульнасці псіхічнага складу («душы народа»), з агульнасці мовы і бытавога ўкладу («пазнаюць людзей... па адзежы»). Для яго адзнакай нацыі з'яўляецца таксама адзінства тэрыторыі, на якой яна пражывае. У трактоўцы нацыянальнага пытання Багушэвіч апынуўся на ідэалістычных пазіцыях. Ён не змог асэнсаваць нацыю як непазбежны вынік буржуазнай эпохі грамадскага развіцця, як гістарычную катэгорыю. На выказваннях паэта па нацыянальнаму пытанню ляжыць пячатка класавай абмежаванасці. Усе названыя адзнакі нацыі паводле Багушэвіча з'яўляюцца рознымі формамі праяўлення галоўнай адзнакі — «душы народа» г. зн. псіхічнага складу, які выяўляецца ў асаблівасцях мовы. А ў сцвярджэнні паэта, што «наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная», крыецца погляд на нацыю, як на спрадвечную і нязменную катэгорыю, якая не залежыць ад агульнасці эканамічнага жыцця, ад сацыяльна - гістарычнага асяроддзя.

Пры ўсёй слабасці і абмежаванасці свайго светапогляду Францішак Багушэвіч шчыра любіў беларускі народ і да канца свайго жыцця не пакінуў веры ў яго невычэрпныя творчыя сілы, у яго здольнасць да гістарычнага развіцця.

